www.nv-online.info

№ 56 (4001)

21 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Минута славы

Выпрыгнуть из штанов, почесать за ухом пяткой, прокукарекать натуральнее, чем истинный петух... Чего только не делают люди ради минуты славы! Наблюдать за такими шоу по телевизору временами бывает даже забавно, жить в этом каждый день – странно и жутковато.

В Беларуси начались президентские выборы, и за своими минутами славы пошли претенденты.

– Вы почему решили баллотироваться?

– Потому что я рыжая.

– А вы почему?

– Меня муж отправил.

– А вы?

– Мне работа нужна, я сейчас тунеядец.

– А вы?

– А я не скажу. Ничего никому не скажу!..

Журналист Василий Семашко принес на регистрацию претендентов в президенты своего кота Барсика.

Можно, конечно, и Барсика. Если исходить из логики: «Лучше ничего не менять, потому что эти уже нахапались, а новые придут – все начнется по новой». Особенно учитывая, что, руководствуясь именно такой логикой, многие избиратели в итоге и голосуют. А от кота действительно вред минимальный. Ну что он украдет? Рыбу, сливки, кусок колбасы... Мечта, а не руководитель! Жаль, что по формальным причинам не может быть зарегистрирован: коты ведь лет двадцать всего живут, а президентом, по нашему закону, можно стать только после 35-ти. А так отличный был бы кандидат. Для наших выборов, естественно...

Один из претендентов объявил, что в случае своей победы он устроит в Беларуси карнавал. Только зачем ждать? Уже карнавал! Выборы по-белорусски – действо отчаянно ненормальное, шутовское. Клоуны, ряженые, «Маска, я тебя знаю...». Все фальшивое, ненастоящее. Кощунственно глумимся над важным.

И через три месяца обязательно определим короля карнавала, посмеемся над зашкалившими счетчиками.

Причем именно потенциальный король меня, честно говоря, сейчас особенно интересует. Он первым подал документы в Центризбирком и возглавил это шутовское шествие.

Как ему ощущение – быть первым среди шутов? Два штатных кивалы, два зазывалы, фрики и он, считающий себя политиком мирового масштаба...

Как ему – понимать, что стал зеркалом, глядя в которое каждый клоун считает, что будет президентом не хуже?

Как ему перспектива – соревноваться предвыборными программами с котом Барсиком?

Барсик, конечно, не великий оратор. Зато одним своим присутствием он обещает пугать мышей. Собственно, с тем же месседжем идет на эти выборы главный претендент. «Объединимся вокруг власти, сохраним, что имеем», – вот и все, что на этот раз придумали его идеологи. Новых идей нет, старые пошли прахом, не реализованы, о них сказать нечего.

Только вот что сохранять, что мы имеем?

Заводы, которые еле-еле работают неполную рабочую неделю. При этом многие – лучше бы вовсе закрыть.

Мировые рекорды по инфляции.

Армию надсмотрщиков, которые по первой команде усмирят недовольных.

Ощущение жизни на пороховой бочке. Потому что завтра если не рубль обвалится, то налог на воздух введут; если не за каждый поход в поликлинику заставят платить, то за каждое обращение в органы власти... Россия не даст нефть – нам гомон, не найдем новые кредиты, чтобы погасить старые долги, – нам кирдык. И все это почему-то называется «стабильность».

Как оно, **быть лично главным ответственным за такую «стабильность»?** Сидеть на подогреваемой сковородке, нацепив на голову пять корон (или шесть, или десять), и бояться соскочить. А вокруг тебя – сумасшедший дом, который старательно и много лет создавал всей силой собственных полномочий: мяукает, кукарекает, водку пьет, борщ хлебает – играет в «минуту славы». Оно того стоило, чтобы считаться в этом дурдоме главным?

ВЫБАРЫ–2015

## Ад прэзідэнта да беспрацоўнай

### *На галоўную пасаду ў краіне засталося восем прэтэндэнтаў*

У панядзелак пасяджэнне Цэнтрвыбаркама па рэгістрацыі ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты праходзіла без Лідзіі Ярмошынай. Невыязную ў Еўрасаюз старшыню ЦВК запрасілі ў Вену для ўдзелу ў канферэнцыі АБСЕ, прысвечанай ацэнцы міжнародных стандартаў і абавязацельстваў па правядзенні свабодных, справядлівых і дэмакратычных выбараў.

Дзеля таго, каб кіраўніца беларускага Цэнтрвыбаркама яшчэ раз пачула, якімі павінны быць сапраўдныя выбары, было зроблена выключэнне – ёй адкрылі візу. Але невядома, ці дасць гэта плён.

Усяго Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў інцыятыўныя групы васьмі прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Гэта кіраўнік дзяржавы **Аляксандр Лукашэнка**, лідар Партыі левых «Справядлівы свет» **Сяргей Калякін**, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Сяргей Гайдукевіч**, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**, прадстаўніца кааліцыі «Народны рэферэндум» **Таццяна Караткевіч**, беспрацоўная **Жанна Раманоўская**, казачы Вярхоўны атаман і лідар Беларускай патрыятычнай партыі **Мікалай Улаховіч** і эканаміст **Віктар Цярэшчанка**. Ініцыятыўныя групы прэтэндэнтаў змогуць пачаць збор подпісаў у адзін дзень – 23 ліпеня.

Ініцыятыўнай групе **Міколы Статкевіча** ў рэгістрацыі было адмоўлена. Як, дарэчы, і групам яшчэ пяці прэтэндэнтаў, якія не здолелі нават пачытаць Выбарчы кодэкс, у якім вызначана, што ў ініцыятыўную групу павінны ўваходзіць не менш за 100 чалавек.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

### Хто не быў зарэгістраваны?

**Мікола Статкевіч**, канды-дат у прэзідэнты на мінулых выбарах, палітвязень.

Бізнесмен **Андрэй Канавец**. Яму адмовілі ў рэгістрацыі, бо ён адбываў турэмнае пакаранне на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі і ў выніку перапыніў 10-гадовы тэрмін знаходжання на тэрыторыі Беларусі. Таксама не былі зарэгіст-раваны ініцыятыўныя групы **Аляксандра Юдаева** (фатограф з Наваполацка, сын былога намесніка дырэктара "Нафтана"), **Ірыны Першынай** (яна прадстаўлялася як "рыжы спецыяліст па рэкламе"), **Сяргея Заблоцкага** (пра гэтага прэтэндэнта зусім нічога не вядома, і дакументы ў ЦВК ён дасылаў па пошце) і **Тамары Біруковай** (хатняя гаспадыня, ёй параіў балатавацца муж). Падстава нерэгістрацыі такая: у ініцыятыўных групах не набіралася нават 100 чалавек, і дакументы былі дрэнна афармлены.

УРАДЖАЙ

## З песняй і малітвай



«Зажынкі» ў СВК «Хатынічы» Ганцавіцкага раёна.



Мы яшчэ і пагрэцца добра не паспелі, а ўжо надышоў час збору ўраджаю. Многія гаспадаркі Беларусі ўжо правялі "Зажынкі". Першыя звесткі з палёў – не самыя радасныя. Намалоты збожжа сёлета могуць аказацца меншымі, чым мінулагоднія.

СМЕХАТУРА

## З-за алкагольнага ап'янення згубіў шанц стаць прэзідэнтам

Тым часам, калі ў Мінску ў Цэнтрвыбаркаме збіраліся тыя, хто здолеў падаць дакументы на рэгістрацыю сваіх ініцыятыўных груп, адзін прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду – беспрацоўны **Юрый Шульган** – зрабіць гэтага не здолеў, бо за з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане алкагольнага ап'янення трапіў не ў ЦВК, а ў ізалятар на вуліцы Акрэсціна, а потым – у суд.

100

## Віншуем, спадар Шукелойць!

У нядзелю 19 ліпеня лік беларускіх доўгажыхароў у замежжы папоўніўся імем спадара Антона Шукелойця, шырока вядомага ў беларускім замежжы і на Бацькаўшчыне грамадскага, палітычнага і культурнага дзеяча. Да гэтага часу 100-гадовы жыццёвы парог перакрочыў тры гады таму спадар Барыс Кіт. Як жартам зазначыў адзін з тых, хто віншаваў Антона Шукелойця са стогадовым юбілеем, цяпер яны абодва могуць заснаваць спецыяльны Клуб і прыцягваць доўгажыхароў у ягоны склад. Каму б з нас не хацелася туды трапіць!

Юбіляра віталі ў грамадскай зале пры Саборы Св.Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, сустрэўшы апладысментамі.

ПУЛЬС

## Як заўсёды

Зараз ідзе важны этап выбарчай кампаніі – фарміраванне выбарчых камісій. Першыя весткі, на жаль, не здзівілі.

У Гродне створаны абласная і дзве гарадскія тэрытарыяльныя камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі. Ніводзін прадстаўнік апазіцыйных партый у іх склад не ўвайшоў.

Паводле слоў праваабаронцы **Рамана Юргеля,** які прысутнічаў на сумесным пасяджэнні Гродзенскага аблвыканкама і прэзідыума абласнога Савета, тэрытарыяльная абласная камісія была сфарміравана з 13 чалавек. «Ад апазіцыі прэтэндавалі па адным прадстаўніку ад АГП і ад партыі "Справядлівы свет", але іх, як і ў мінулыя разы, не ўключылі па ўжо знаёмых прычынах: маўляў, яны беспрацоўныя і не маюць вопыту працы ў падобных камісіях, а таксама ў іх мала зарэгістраваных на тэрыторыі вобласці партыйных структур. У склад камісіі прайшлі толькі праўладныя прадстаўнікі, прычым агучылі, што яны прадстаўляюць 12 раёнаў вобласці», – паведаміў праваабаронца.

І Калякіну, і Лябедзьку можна ліць слёзы, але, даражэнькія, няўжо ў вашых партыях усе беспрацоўныя, што вы не змаглі прапанаваць у камісіі тых, хто працуе, а не бамжуе?

## Скардзішся – плаці

Аляксандр Лукашэнка ўхваліў папраўкі ў Закон «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб». Папраўкі прадугледжваюць магчымасць наказаць рублём, тых, хто сістэматычна звяртаецца ў розныя інстанцыі з неабгрунтаванымі скаргамі.

Закон удакладняе расходы, якія могуць быць спагнаны з заяўніка ў выпадку, калі ён сістэматычна накіроўвае беспадстаўныя скаргі. Да іх аднесены сумы, якія падлягаюць выплаце экспертам, паштовыя выдаткі і выдаткі, звязаныя з выездам на месца разгляду звароту», – паведамілі ў прэс-службе кіраўніка Беларусі.

Паводле абноўленага закона, усе звароты будуць разглядацца цягам 5 працоўных дзён, пачынаючы з наступнага дня з моманту падачы звароту або скаргі.

САНКЦЫІ

## Сенатар Пірс супраць «Беларуськалія»

Амерыканскі сенатар-рэспубліканец Стыў Пірс унёс у Кангрэс ЗША законапраект, які прадугледжвае распаўсюджванне санкцый на «Беларуськалій» і яго трэйдара – «Беларускую калійную кампанію».

Пра гэта паведаміла выданне The Wall Street Journal. *«Гэты законапраект ёсць першы крок, каб краіны, якія з'яўляюцца аб'ектам амерыканскіх санкцый, неслі адказнасць за свае дзеянні і не мелі магчымасці абысці санкцыі, проста змяніўшы назву»,* – заявіў сенатар.

Нагадаем, што ў 2006 годзе ЗША ўвялі ў дачыненні да шэрагу беларускіх службовых асоб і дзяржструктур санкцыі. У тым ліку пад абмежаванні падпаў канцэрн «Белнафтахім», куды ўваходзіў «Беларуськалій». Аднак у сакавіку 2014 года беларускае кіраўніцтва вывела «Беларуськалій» са складу канцэрна «Белнафтахім», патлумачыўшы гэта імкненнем да прамога кіравання прадпрыемствам.

## У адны рукі

Сем арганізацый канцэрна «Белдзяржхарчпрам» увойдуць у склад алкагольнага холдынга. Аляксандр Лукашэнка ўсё-такі падпісаў адпаведны ўказ.

Кіруючай кампаніяй будзе ААТ «МІНСК КРЫШТАЛЬ». У склад холдынга ўвойдуць такія арганізацыі канцэрна «Белдзяржхарчпрам», як ААТ «Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод «Белалка», ААТ «Віцебскі лікёра-гарэлачны завод «Прыдзвінне», ААТ «Гомельскі лікёра-гарэлачны завод «Радамір», ААТ «Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод», ААТ «Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод», ААТ «Мазырскі спіртагарэлачны завод», ААТ «Харчовы камбінат «Весялова».

Нагадаем, што незалежныя эканамісты ідэю ўвядзення фактычнай манаполіі на вытворчасць алкаголю актыўна крытыкавалі.

СЁННЯ

## Дзеючы старшыня АБСЕ прылятае ў Мінск



Дзеючы старшыня АБСЕ, першы наméснік прэм'ер-міністра – міністр замежных спраў Рэспублікі Сербія **Івіца Дачыч** наведае Мінск сёння, 21 ліпеня.

Як паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі – прэс-сакратар МЗС **Дзмітрый Мірончык,** *«у ходзе візіту плануюцца перагаворы Дачыча з беларускім бокам, а таксама ўдзел у сустрэчы трохбаковай кантактнай групы па Украіне».*

Галоўная інтрыга візіту наступная: Украіна з'яўляецца галоўнай мэтай прылёту ў Мінск высокага чыноўніка, ці усё ж такі мэты дзве – Украіна і беларускія прэзідэнцкія выбары?

НАДВОР'Е

## Лета гарачынёй пакуль не радуе

На гэтым тыдні тэмпературны фон чакаецца на 1–3 градусы ніжэй за кліматычную норму. Праўда, у канцы тыдня пацяплее.

Пра гэта распавяла прадстаўнік Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Людміла Парашчук.**

У аўторак 21 ліпеня на тэрыторыі Беларусі пераважна без ападкаў, толькі месцамі па поўначы пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра максімальная днём ад +19°С па паўночным усходзе да +26°С па паўднёвым захадзе краіны.

У сераду 22 ліпеня месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Днём у асобных раёнах узмацненне ветру парывамі да 15–17 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +10...+17°С, па паўднёвым захадзе да +19°С; максімальная днём +19...+26°С, па поўдні да + 28°С.

У чацвер 23 ліпеня ноччу пераважна без ападкаў, днём месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, пры навальніцах узмацненне ветру парывамі да 15–20 м / с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +9...+15°С, па паўднёвым захадзе да +17°С; максімальная днём +21...+28°С, па поўдні +29...+32°С.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

## Греческим курсом?

Греция теряет экономический суверенитет, Беларусь – государственный. Почему я так считаю?

Из Минска восвояси отбыла миссия МВФ, которая приезжала по просьбе белорусских властей для обсуждения возможности получения кредита в 3,5 млрд долларов. Поскольку белорусская экономическая модель в состоянии функционировать только от кредита до кредита, а тем более сегодня, когда экономика погружена в глубокую рецессию, необходимо брать взаймы у кого только возможно. Официальный Минск, имея опыт в делах с МВФ по первой кредитной программе, которая реализовалась примерно в таком же объеме, представил миссии так называемую дорожную карту – что и когда будет меняться в рамках реформирования экономики. МВФ, также имея опыт общения с белорусским правительством, твердо усвоил, что оно далеко не все делает, что записано на бумаге. А если и делает, то половинчато или с белорусской спецификой.

В частности, «дорожная карта» предусматривает сокращение льготного кредитования неэффективных госпрограмм, когда банкам льготные кредитные ставки компенсирует госбюджет. Это обещалось МВФ денежными властями и в преддверии первого кредитного проекта, но не выполнялось. Предусмотрено кратно повысить уровень пособий по безработице, который до сих пор остается смехотворно низким, чтобы население было готово к реформам. В который раз в «карте» разговор идет о приватизации. Контрольные пакеты акций почти всех крупных белорусских акционерных обществ остаются в руках государства. Поэтому эти АО не являются самостоятельными. Их периодически навещают чиновники, включая самого главного, и директора, как пацаны, отчитываются, что сделано, куда потратили деньги. МВФ по-прежнему требует, чтобы наши ЖКХ и транспорт перешли на самоокупаемость. Но как это сделать с белорусскими падающими зарплатами? Причем требует, чтобы реформы провели в течение 6–18 месяцев, а не в течение 3–4 лет, как предлагает правительство. МВФ, конечно, в курсе заявлений Лукашенко, что, пока он президент, белорусская экономическая модель в своей основе останется незыблемой. Как подтверждение этого – недавняя многомиллиардная бюджетная подачка государства МТЗ и «Гомсельмашу». Поэтому миссия Фонда покинула Минск с серьезными сомнениями в том, что белорусские власти созрели к проведению глубоких структурных реформ. В общем, все по Станиславскому: не верю!

Собственно, миссия МВФ дежурно навещает Беларусь весной и осенью каждого года для оценки ситуации в ее экономике. Обещала приехать и к концу года.

Естественно, основные надежды белорусского руководства – на востоке, где кредиторы не так придирчивы. Беларусь просит у России 3 миллиарда долларов стабилизационного кредита, не рассчитавшись по старым долгам. Просит у правительства России и у Евразийского фонда стабилизации и развития, который процентов на 80 сформирован из российских денег. Пока Москва пообещала выделить Беларуси 760 миллионов долларов в довесок к уже полученным весной 110 миллионам «зеленых», но в российской валюте. За первое полугодие в белорусскую экономику были привлечены 530 миллионов долларов от российского правительства и банков, а погашено только 125 миллионов. Москва отсрочила Минску возврат различных долгов на сумму 1,3 миллиарда долларов и разрешила погашать ее долларовые кредиты в российской валюте. Что же еще можно сделать для ближайшего союзника, который и так получает энергетические субсидии ежегодно на миллиарды долларов?

Уже 3 августа Минфину Беларуси необходимо погасить 1 миллиард долларов по первому выпуску евробондов. Где взять такую сумму? Из золотовалютных резервов, размер которых 4,6 миллиарда долларов, а валютная составляющая – порядка 2,3 миллиарда? В следующем, 2016, году придется завершать погашение кредита Сбербанка «Беларуськалию» (если мне память не изменяет, в объеме 1 млрд долларов). В начале 2018 года маячит погашение второго выпуска евробондов на 800 миллионов долларов. А дальше на горизонте погашение многомиллиардного кредита на АЭС. Понятно, набрав в этом году еще кредитов, белорусские экономические власти продолжают строить финансовую пирамиду, и в последующие годы нас ожидают очередные пиковые долговые платежи, которые, как водится, будет платить в той или иной мере все население страны. Начиная с младенцев, которым чего-то недодадут, и заканчивая теми, кто живет в миллионодолларовых коттеджах. С начала 2006 года внешний госдолг Беларуси увеличился в 21,7 раза. Если темпы его роста сохранятся, то к 2023 году он вырастет до 284,7 миллиарда долларов, или порядка 280% ожидаемого тогда ВВП (в 2014 году он составил 76 миллиардов долларов). Нынешний внешний госдолг Греции, как известно, 173–175 процентов ВВП.

Возможно, по политическим причинам, как это было не раз, Россия и даст денег столько, сколько просит руководство Беларуси. Как говорится, не оскудеет рука дающего и не отсохнет рука берущего. Но мы сегодня имеем ситуацию, когда «экономические корабли» – и кредитора России, и заемщика Беларуси – сильно треплют в рыночном океане западные санкции и обвалившиеся мировые цены на нефть. В текущем году ожидаются снижение ВВП России на 4% и отток капиталов – более 100 миллиардов долларов. Объем промышленного производства в России упал на 5,5 процента. С начала года доходы россиян сократились более чем на 3 процента. Внешний товарооборот Беларуси обвалился более чем на четверть. В ситуации, когда валютная выручка что в России, что в Беларуси падает, а рублевый станок разогревается, вкладчики начали конвертировать рублевые депозиты в валютные. Так, рублевая денежная масса с начала года выросла в Беларуси на 8,9 процента, рублевые банковские вклады не растут, зато в рост пошли валютные. Аналогично и в России. Беларусь третий месяц лидирует по росту цен в Таможенном союзе. За пять месяцев этого года убыточными были 1691 организация, или 21,3 процента. Их чистый убыток по сравнению с 2014 годом вырос вдвое. В связи с заключением странами Запада, Россией и Китаем так называемого ядерного соглашения с Ираном с последнего снимают экономические санкции. Ожидается резкое увеличение поставок иранской нефти на мировой рынок, на который в избытке поставляют «черное золото» другие страны. Иран уже заявил, что готов в течение пяти-шести месяцев нарастить добычу своей нефти с 2,87 миллиона баррелей в сутки еще на 1 миллион баррелей. При таком варианте специалисты оценивают снижение мировой цены нефти до 45 долларов за баррель и меньше. Нетрудно представить, какой удар это нанесет по экономике России, а вместе с ней и по белорусской экономике.

Ведущие страны еврозоны и Евросоюза, кредитно-финансовые институты ЕС как кредиторы стали экономическими заложниками своего должника – Греции. Так и Россия становится заложником своего постоянного заемщика – Беларуси. Скорее политическим, чем экономическим. И в том и другом случае развязка наступит неизбежно с плохим концом для всех сторон. Заемщиков ждет банкротство. Только Греция потеряет экономический суверенитет, а Беларусь может потерять и государственный.

